

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**У Магілёве рэзка падскочыў узровень кішэчных захворваньняў. Як паведаміў намеснік гарадзкога санітарнага ўрача Аляксей Астапчык, з пачатку чэрвеня колькасьць хворых падвялічылася ажно ў 3-4 разы ад звычайнага. У асноўным гэта вострыя кішэчныя інфэкцыі. Зараз спэцыялісты высьвятляюць прычыны. Паказальна, што пачалі яны з інспэкцыяў дзіцячых садкоў. Будзем спадзявацца, што на гэты раз умяшальніцтва спэцыялістаў будзе дзейным.**

**Самы "перадавы" у нас у наркатычным сэнсе Ленінскі раён абласнога цэнтру. Ажно 35 крымінальных справаў па артыкулах, якія тычацца незаконнага абароту наркотыкаў, узбуджана тут з пачатку года. На жаль, па іх праходзяць маладыя людзі. Па некалькі чалавек у кожнай справе. А колькі не праходзіць...**

**Незвычайны помнік з'явіўся днямі ў Дрыбінскім раёне. Мясцовыя руплівцы прыроды ўшанавалі адметным знакам памяць ... баброў, што загінулі непадалёк ад райцэнтру. Раней гэты смышлёныш і працаўнік вызнаваўся ледзь ня сымбалем прыроды нашага краю. Цяпер бабраня – рэдкасьць. Ды яшчэ гіне, як тыя трое зьвяркоў, якіх ня стала днямі. Адзін памёр ад браканьера, іншыя – ад чалавечай "гаспадарчай дзейнасьці". Можа й сапраўды, знак памяці ўсхвалюе нас, пакуль ня позна.**

**Тыдзень адзначыўся новай зьявай у "грашова-эканамічных" адносінах паміж гаспадарчымі партнэрамі. Яны пачалі судзіцца. А што зробіш, калі адны вінныя іншым – і не вяртаюць. Такім чынам пацярпеў, напрыклад, горацкі калгас "Шлях Леніна" ад бабруйскага "Садавіна-гароднінагандлю". Калі яшчэ прадаў бульбу, а грошай заплацілі толькі палову. Вось і пайшоў старшыня гаспадаркі ў суд. А гараджане апраўдваюцца: мы ўсе ў крэдытах, "жывых" грошай няма. Як быццам на вёсцы лягчэй... Уся краіна ў крэдытах ды "на картатэцы".**

**Як раз ідзе прызыў у войска, а з Бабруйску паведамляюць пра няўдалую, на шчасьце, спробу аднаго салдата застрэліцца. Хлопцу 19 гадоў, год адслужыў. Пракуроры зараз высьвятляюць дэталі і падрабязнасьці. Гэта безумоўна трэба. Але ж трэба і войска ўдасканальваць. Надта яно ў нас савецкае па ўсіх парамэтрах жыцьця: выхаваўчай рабоце, адносінах паміж салдатамі і "дзядамі", афіцэрамі. Падбіраюць хлопцаў у войска пад учорашнім лёзунгам пра "первейшую обязанность", якая іх мала кранае. А іншай матывацыі палітработнікі прапанаваць няздольныя. Нярэдка самі ня ведаюць, за што і каму служаць.**

**У пэўным сэнсе было цікава прачытаць справаздачу пра тое, што зрабіў новы склад Магілёўскага гарсавету за год працы. Бо гэта той Савет, што быў створаны (выбраны) у адпаведнасьці з палітыкай Лукашэнкі на зьнішчэньне дэмакратычных паўнавартасных прадстаўнічых органаў. Вось чытаю, што маецца 34 дэпутаты, што за год прайшло столькі-та сэсіяў ды разгледжана столькі-та пытаньняў. Свае пытаньні разглядалі таксама пастаянныя камісіі. Не магу сьцьвярджаць, што ўсё гэта было непатрэбна. Аднак не магу і пацьвердзіць асаблівую карысьць усёй гэтай працы. Дэпутаты ў нас асобна, жыцьцё – асобна. Паралельны сьвет. Хто можа ўспомніць, калі, канешне, прымаў удзел у галасаваньні, свайго дэпутата? І што ён зрабіў, цікава.**

**У Магілёве пачалі прымусова, пад міліцэйскім канвоем, утрымліваць у працісухотным дыспансэры нябясьпечна хворых. Разьбіраюцца не ад добрага ўтрыманьня, відаць. Але ж немагчыма дапусьціць, каб інфэкцыйная цяжкая хвароба пашырала свой "арэал". Ён і так надта вялікі для цывілізаванай краіны. А ўсё-роўна неяк няўтульна ад думкі пра дапушчальнасьць падобнага лекаваньня з дапамогай праваахоўнікаў. Раптам заўтра аб'явіцца якая новая хвароба, што патрапіць у такі ж асабліва небясьпечны тытул...**

**У вобласьці пабывала турэцкі пасол у Менску спадарыня Шуле Сайсал. Яна наведала нашыя прадпрыемствы, пагутарыла з абласным начальствам і прамысловым дырэктаратам. Зразумела, пабачыла бядотны стан прамысловасьці. Пасяброўску паўшчувала Дражына за эканамічныя парадкі, якія адпужваюць інвэстараў і не даюць дыхаць прадпрымальным людзям. Як быццам Дражын таго ня ведае сам.**

**Магілёў зьбіраецца правесьці аблігацыйныя займы. Мяркуецца пад гарантыю гарадзкіх уладаў саступіць людзям "каштоўныя паперы", а грошы скарыстаць на фінансаваньне мясцовых праграмаў будаўніцтва і падтрымкі сацыяльнай сфэры. Але гарантыя гарадзкіх уладаў – рэч няпэўная і важыць яшчэ менш, чым урадавыя гарантыі. Хто захоча набываць у падобных умовах такія паперы, і ці не спатрэбіцца неяк прымушаць гараджанаў (ці прадпрыемствы) аддаць свае грошы ў абмен на "паперы" і абяцаньне выгадаў – пабачым.**

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн*

ПРАЕКТ

## Акт незалежнасьці

***Напрыканцы мінулага тыдня Аргкамітэт Усебеларускага зьезда прапанаваў на шырокае грамадзкае абмеркаваньне праект Акта Незалежнасці Беларусі, які мяркуецца прыняць на першай сэсіі форума. Прапановы, заўвагі і меркаваньні аб Акце будуць разгледжаны і ўлічаны пры канчатковай дапрацоўцы дакумэнта.***

***Кантактны тэлефон Сакратарыята Усебеларускага зьезда: (8-0172) 23-65-29. Адрас для карэспандэнцыі: 220065 Менск, ас 297.***

Мы, дэлегаты Усебеларускага зьезда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

– усведамляючы адказнасьць за будучыню Беларусі;

– напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый;

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права

ЗАЯЎЛЯЕМ:

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасьці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце сьцьвярджае яго дзеля галоўнае мэты – свабоднага развіцьця і дабрабыту, годнага жыцьця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасьць краіны ў вонкавых дачыненьнях, вяршэнства, самастойнасьць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеяньні супраць нацыянальнай дзяржаўнасьці павінны прасьледавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце былі замацаваныя ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года легітымна абраным парлямэнтам. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нэўтральная, мірная і бязьядзерная дзяржава. Незалежнасьць Беларусі з'яўляецца набыткам ня толькі сёньняшняга пакаленьня, але й нашых продкаў і нашчадкаў. Сувэрэнітэт краіны ня можа быць абмежаваны праз рашэньні вышэйшых дзяржаўных асобаў і органаў і нават праз рэфэрэндум.

Сёньня незалежнасьць Рэспублікі Беларусь пастаўленая пад пагрозу. Рэальнай небясьпекай ёй сталася дамова аб утварэньні адзінай саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаная 8 сьнежня 1999 года прадстаўнікамі ўлады, чыя легітымнасьць ставіцца пад сумнеў ў большасьці краінаў сьвету. Ня бывае двух сувэрэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемакарысныя адносіны з усімі краінамі сьвету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам ніякай дзяржавы. Сувэрэнітэт ня можа перадавацца іншай дзяржаве і новастворанаму дзяржаўнаму ўтварэнню.

Незалежнасьць – гэта натуральнае права ўсяго народу, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Усебеларускага зьезда,

СЬВЕДЧЫМ

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

АБВЯШЧАЕМ

дзяржаўны сувэрэнітэт неад'емнай каштоўнасьцю беларускага народа;

ПРЫЗНАЁМ

ня маючымі законнай сілы любыя пагадненьні і рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне сувэрэнітэту Беларусі;

ЗАКЛІКАЕМ

міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаваў, сусьветную грамадзкасьць забясьпечыць гарантыі сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Заклікаем суайчыньнікаў згуртавацца вакол ідэй Акта Незалежнасьці.

Жыве Беларусь!

*Камэнтар сустаршыні Аргкамітэту Усебеларускага зьезду Генадзя БУРАЎКІНА з нагоды апошніх настрояў вакол ідэі форума і падрыхтаваных да яго дакумэнтаў.*

*Камэнтар зьявіўся ў сувязі з тым, што частка палітычных арганізацыяў, што ўваходзяць у аб'яднаную апазыцыю, прапануе правесьці зьезд увосень. Многія грамадзкія арганізацыі і выбітныя асобы выказваюцца за лета. Аргкамітэт абвесьціць дату форуму на наступным тыдні.*

**"Мы абсалютна перакананыя, што трэба праводзіць гэты зьезд як мага хутчэй, ніколькі не ахвяруючы прадстаўнічасьцю. Калі ўлічыць, што нас чакае наперадзе – наперадзе нас чакае выбарчая кампанія ў парлямэнт, а там выбарчая кампанія прэзыдэнцкая, наперадзе нас чакае ўзмацненьне тэмпаў інтэграцыі з Расеяй... – таму выказваньне думкі, выказваньне волі да незалежнасьці павінна быць выказанае як мага хутчэй.**

**Мы хацелі б, каб ва ўкладаньні гэтага Акту, тэксту гэтага акту, прынялі ўдзел як мага болей людзей, каб была ўлічаная і іх думка. Дакумэнт даволі сьціслы, юрыдычна кароткі, але думка як мага большай колькасьці беларусаў, сьвядомых, разумных, тых, хто хоча, каб Беларусь засталася на палітычнай мапе сьвету, павінна быць улічаная і будзе ўлічаная".**



## Як уразіць кангрэсмэна

На мінулым тыдні адбыліся дзьве падзеі, якія палітычныя назіральнікі зьвязваюць між сабой. Урадовы бок у рамках шырока рэклямаванага "грамадзка-палітычнага дыялёгу" адклаў на больш позьні тэрмін загадзьдзя прызначаную сустрэчу з апазыцыйнымі перамоўшчыкамі. Лукашэнка непасрэдна і асабіста выказаў пагрозу на адрас тых лідэраў палітычнай апазыцыі, якія карыстаюцца замежнай гасьцінасьцю і афіцыйна наведваюць заходнія краіны.

Пачуўшы пра гэта кангрэсмэн Сэм Гэйдэнсан, ініцыятар рэзалюцыі Кангрэсу ЗША ў справе Беларусі (гл. ТМ №18 ад 12-га траўня), які больш за 20 гадоў выбіраецца ў склад гэтай Палаты, выступіў з афіцыйнай заявай. Яе настрой і зьмест добра перадаюць словы спадара Гэйдэнсана, якія прагучалі днямі на хвалях беларускай службы радыё "Свабода".

*"Я думаю, што адзіная пагроза Беларусі зыходзіць ад самога сп. Лукашэнкі, які спрабуе кантраляваць размовы і паводзіны людзей, што сёньня ня робіць ніводзін, самы тыранічны рэжым сьвету. Людзі маюць права гаварыць. І трэба гэтыя пагрозы зьмясьціць у кантэкст няздольнасьці ўладаў арганізаваць сапраўды дэмакратычныя выбары. Відавочна, што сп. Лукашэнка баіцца беларускага народу. Каб не баяўся беларускага народу , пагадзіўся б на свабодныя і справядлівыя выбары, свабодны дыялёг. Ён не намагаўся б забараніць беларусам гаварыць паміж сабой альбо зь іншымі суразмоўцамі ў цэлым сьвеце... Шчыра кажучы, я не магу ўзгадаць такога, каб нават самыя тыранічныя рэжымы спрабавалі перашкодзіць людзям размаўляць з сябрамі Кангрэсу, з іншымі парлямэнтарамі. У нас, у адміністрацыі ЗША адзіная думка адносна таго, што трэба рабіць у Беларусі – гэта свабодныя і справядлівыя выбары, вольная прэса без перашкодаў з боку ўладаў, свабодныя недзяржаўныя арганізацыі. І мы маем намер прыкладаць усе магчымыя намаганьні, каб дапамагчы ўсталяваньню дэмакратыі ў Беларусі і падвышэньню ўзроўню жыцьця людзей. Беларусы так шмат пакутвалі, яны не павінны больш пакутваць. Усе пагаджаюцца з тым, што Эўропа, Расея, Беларусь – усе будуць у выйгрышы, калі ў Беларусі будзе свабоднае і дэмакратычнае грамадзтва".*

***Тэлефанаваў у ЗША***
***Аляксандар ЛУКАШУК***

